Алена Руцкая

# РОЗДУМ

ВЕРШЫ
ПАЭМА



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК84 Бел7
Р91

Рэцэнзент
Алег Лойка

Лирические стихотворения сборника увлекают своей непосредственностью, жизненной правдой. Высокими мерками человечности стремится молодая поэтесса измерять и чувство любви.

Последний раздел книги — юморески, сатирические стихи.

Р $\frac{4702120200-010}{М302(03)-88}$ 60—88

ISBN 5-340-00060-5



Веліч справы яднае нас,
Веліч справы, якой мы служым.
Выпрабоўвае нас на мужнасць
Непадкупны, суровы час.

Непадкупны, суровы час,
Ты ніколі не быў лагодным,
Пад твае сцягі і паходні
Справядлівасць клікала нас.

Справядлівасць клікала нас,
Не шкадуючы сілы і жыццяў,
Так, як Ленін, аддана служыць ёй,
Каб свабоды агонь не згас.

Веліч справы яднае нас.

* * *

Жыццё пражыць — не поле перайсці,
Жыццё пражыць — сваё засеяць поле,
Каб з працы і смылелі, і калолі
Далоні, у якіх сяўню нясці.

Сабраць заган і крыўды камяні,
У дбанні аб другіх ачысціць поле,
Каб радасці не абяднець ніколі,
Засеяць зерні светлай дабрыні.

Няхай красуюць шчырасць і любоў,
Натхнёнасць да краёў і поверх краю
І песня пранікнёна узрастае
З гуманных самых і спагадных слоў.

Нястомна ад відна і да цямна
Здабытак той дарыць людзям, як долю,
Давер людскі не падмануць ніколі:
Пашана — вось найбольшая цана.

## І ПАМЯЦЬ, І ПАШАНА, І ЛЮБОЎ

Пажарышчы,
руіны,
каміны...
Са здымка з той, апошняе вайны,
Мой горад,
ты ўглядаешся ў мяне,
Нібы праверыць хочаш, ці кране
Маю душу твой незагойны боль,
Боль тых,
хто тут ахвяраваў сабой,
У чый апошні дзень прыйшлі яны:
Пажарышчы,
руіны,
каміны.

Праменнасць,
зяляніна
і блакіт,
У Шчары сонца асляпляльны плыт,
Прыветнасць зіхатлівых акаціц,
Бурштынавыя крылы зараніц,
Шчымлівая задумлівасць прысад —
З дзяцінства мой усцешвалі пагляд,
Ад злыбеды ахоўвалі, як шчыт:
Праменнасць,
зяляніна
і блакіт.

Спакою,
цішыні
і дабрыні
Для нас падараваны лёсам дні...
Ці ж лёсам?
Не, заплочана жыццём
За мірны ранак, за бацькоўскі дом,
За годнасць,
за здзяйсненне смелых мар —
Так многа найкаштоўнейшых ахвяр,
Хто так хацеў для роднае зямлі
Спакою,
цішыні
і дабрыні.

І памяць,
і пашана,
і любоў
Мяне сюды прыводзяць зноў і зноў
Да Вечнага, Свяшчэннага агню,
Дзе шчырую удзячнасць аддаю
Сумленнасцю сваіх пражытых дзён.
Прыміце ж ад мяне зямны паклон.
Хай сплоцяць доўг вам з далечы гадоў
І памяць,
і пашана,
і любоў.

## СПАСЦІЖЭННЕ

Як проста
Мудрыя пісалі:
Вучыся на чужых няўдачах,
Чужых памылках і пакутах,
Чужых сумненнях
і трывогах,
І на жыцця крутых дарогах
Цябе няўдачы не асочаць,
Нідзе не упадзеш,
не збочыш.
І у бяды няўмольных путах,
Зняверыўшыся,
не заплачаш.

Як проста
Гэта ўсё засвоіць,
Сабе жадаючы удачы,
Узяць павадыром развагу
І там,
дзе падалі слабыя,
І абвівала настальгія,
Нібы удаў,
задухі колцам,
Дзе плыў адчай
дажджом бясконцым,
Зірнуць з патроенай увагай
І абыходны шлях убачыць.

Як проста,
Што бяздумна нават
Не абысціся без блуканняў.
Тады чаму яшчэ з дзяцінства,
Сабе збіваючы калені,
Імкнёмся мы да спасціжэння
Таго, што ўжо даўно пазнана,
І не загойваецца рана
Ад гэтых сплаўленых адзінстваў:
Спакусаў,
            спроб,
                        расчараванняў.

Як простае
Заўжды складана,
Ды толькі ў гэтым непаўторнасць,
Што, шлях усё ж мінуўшы торны,
Ў жыцця няспынна-вечным ходзе
Мы свой адметны лёс знаходзім.



Часам марна цягнецца дзень,
І няма за што зачапіцца.
Ты не болей значыш, чым цень,
Чым у лівень для ка́ні крыніца.
І работа валіцца з рук —
Дзе падзеліся спрыт і увішнасць?
І жыццё нагадвае круг
Той дзіцячай гульні, дзе ты лішні.
Не было ні заслуг, ні спраў,
Вартых добрага успаміну:
І нічога сабе не сабраў,
І нічога другім не пакінуў.
І тады,
нібы першы крок,
Няўпэўнена і цярпліва,
Ты адольваеш новы парог,—
Больш складаны і больш імклівы.
Так няспынна ідзеш наўпрост,
Аж пакуль ізноў не адчуеш,
Што і гэты парог перарос,
Як і тую прыступку былую.
Дні адмерваюць радасць і боль,
І не бачна воку чужому,
Як, прабіўшы сумненняў золь,
Ты адольваеш новую строму.



Зноў закружыўся снег.
І на зялёнае голле,
І на ажыўшае поле
Сыплецца, сыплецца снег.

Шэры, маркотны дзень,
Хоць бы расінка блакіту.
Сумнай смугой спавіты
Гэты вясновы дзень.

Толькі звініць жаўрук,
Цёплым струменьчыкам песні
Грэе астыласць веснюю —
Гоніць зіму жаўрук.

А неспагаднасць людзей
Так ападае, здаецца,
Болем на цёплае сэрца,
Студзіць цяпло надзей.

Трэба хутчэй растапіць
Чэрствасць, як стынь вясновую.
Песенька жаўруковая
Ў сэрцы павінна жыць.

# ШАСНАЦЦАЦІГАДОВЫМ

Не ад юнацтва, не ад сталых дзён
Ідзе жыцця на вартасць вымярэнне —
Адтуль жывеш, дзе добрай працы плён,
Адтуль, дзе творчых пошукаў гарэнне.

Не працякуць дарэмныя гады,
Калі, ступіўшы ў свет грамадзянінам,
Ты будзеш працай вечна малады,
Зямлі сваёй адданым будзеш сынам.

## УСПАМІНЫ

Ўспамінаю радзіму заўжды
Ў любым, самым райскім краі.
Ў хвілю шчасця і ў хвілю бяды
Аб матулі сваёй ўспамінаю.

У паходзе ці за сталом,
Адразаючы хлеба акраец,
Тых, хто ніву працы цяплом
Саграваў,— дабром памінаю.

Ўспамінаю школьны званок,
Нашых першых настаўнікаў твары,
І жыццёвы горкі урок,
І спаўненне юначых мараў.

У жыцці маім, што ні крані,
Перагледзь за хвілінай хвіліну,—
Столькі радасці і цеплыні
Ад удзячных тых успамінаў.



Нам дадзена адвечная трывога:
Праз сэрца колькі б ні прайшло дарог,
Усё здаецца, зведана не многа,
Нязнанага не зменшыўся аблог.

І самая галоўная сцяжына
Яшчэ імкліва кліча у працяг,
І б'е пачуццяў светлых ручаіна
Шчымлівасцю трывожнай адкрыцця.

Няхай цяжэй гадоў пражытых ноша
І неадольней памяці палон,
Ды сэрца не адну шчэ песню зложыць;
Як гарызонт, нас вабіць працы плён.



Жоўтай восені сумны звон
Зноў паціху трывожыць сэрца.
Неба шэрага парасон
Зрэдку промнямі усміхнецца.

Нетаропка, нібы пастух,
Вецер лісце дарогай гоніць.
Патапталі расісты луг
Тумаяоў белагрывыя коні.

Цёплым водарам спелых стагоў
Шчэ зямля да ранку сагрэта —
Журавы напомнілі зноў,
Што зямля пасталела за лета.

Так сталеем, пэўна, і мы,
Толькі з розніцаю адною,
Што не можам, як журавы,
Зноў вярнуцца з новай вясною.

## З НАРОДНАГА

А бабулі дзіцятка шугалі,
Варажылі:
паклалі каралі,
І вясёлы мядзяны званочак,
Ды з алоўкам паперы лісточак,
Шчэ іголачку з ніткай шаўковай,
І пярсцёначак з вочкам барвовым.
Што дзяўчынка пацягне у рукі?
Ці аловак, як сімвал навукі,
Ці каралі — адзнаку убораў,
Ці званочак да песенек скоры?
Можа, будзе яна дамавітай —
Да іголкі пацягнецца з ніткай?
Ці ў сям'і яе доля красуе,
Як пярсцёнак сабе аблюбуе?
Вачаняты блішчалі ў дзіцяці —
Вось якое паклалі багацце.
Ўсё зграбло, што ляжала, агулам,
Ўсё зараз да сябе пацягнула.
Ах, бабулі, як вы варажылі,
Што ж на шчасце прыкмет не лажылі.

## ШУКАЮ Ў СЭРЦЫ КОЖНЫМ

У хату белае святло,
Як сырадой, злівае месяц.
І ад бяссонніцы акно
Фіранкаю не занавесіць.

Чамусьці думка давідна
Усё часцей прыходзіць стала:
Ці непазбежнасць, ці віна
У тым,
        што марна разгубляла.

Як крык трывожны жураvоў
Шукае водгук роднай пожні,
Так праўду, шчырасць і любоў
Шукаю я у сэрцы кожным.

Шукаю,
        думаю,
                не сплю,
І спее думак дасканаласць.
Як зерне добрае ў раллю,
Да нас прыходзіць наша сталасць.

## ПРЫСЯГА КАМУНІСТА

Мы не казалі клятвы — вызначаць
Яе не хопіць слоў — мы цвёрда знаем —
І мудрым запаветам Ільіча,
Радзіме і сумленню прысягаем.

Мы прысягаем памяці гадоў
Тых, першых, што зваліліся цяжарам
На плечы мужных партыі сыноў,
Адданых, легендарных камісараў.

Мы прысягаем марам светлым іх,
Што ў згаладнелых гарадах Расіі
Яны пад сцягам гордым, агнявым,
Як веру неўміручую насілі.

Мы прысягаем Вечнаму агню,
Магілам і маўклівым абеліскам,
Хто сэрцам мужным узрываў браню
І завяшчаў: «Лічыце камуністам».

Мы прысягаем нашым мірным дням,
Калі трывога ўзрастае гмахам,
Падаць руку народам, як братам,
Закрыць дарогу ядзернаму жаху.

Сумленне камуніста — не для слоў,—
Мы вартасць яго справай вымяраем,
Мы запаветам ленінскім ізноў,
Радзіме і народу прысягаем.

## ВЕТЭРАНУ

Заўтра Дзень Перамогі,
І бяссоння суровыя вочы
Зноў у памяць тваю
Углядаюцца шыбаі начной.
Ты салдат,
Ты вандроўнік бясконцай дарогі,
Што лягла паміж сённяшнім днём
І апошняю лютай вайной.

Кіцель выцвілы твой,
Даваеннага мо яшчэ крою,
Клапатліва змяніла сям'я
На сучасны і новы пінжак.
Ды на ім медалі
Па-ранейшаму пахнуць настоем,
Замяшаным з зямлі і крыві
І прагорклага дыму атак.

Заўтра Дзень Перамогі,
І з прыгоенай памяці раны
Успамін,
як шпітальны хірург,
Акрываўлены бінт адарве,
Бо вайна,
Як балючы асколак трывогі,
Як пустыя вачніцы смярцей,
Назаўжды засталася ў табе.
Заўтра стрэнеш сяброў,

Тых, з якімі ў атакі хадзілі.
І зрадзелы ваш строй,
Як прытомлены клін журавоў,
Як адзнака жыцця,
Тваёй сілы і славы, Радзіма;
Тых, хто знае сапраўдную плату
За сённяшні мір і спакой.

## ЯК НАВУЧЫЦЦА...

Як навучыцца бачыць у жыцці
Яго святочнасць, шчаснасць,
непаўторнасць?
Як навучыцца за бядою чорнай
Прамень надзеі светлае знайсці?

Як навучыцца ў дробязнасці спраў,
Будзённасці дакучлівай і шэрай
Знайсці стваральнасці жывую веру,—
Акрыленасць, якой бы ўсё аддаў?

Як навучыцца ў сутнасці людской,
За крыўдным словам, за крывым паглядам,
Нязменна бачыць дабрыню, спагаднасць,
Што ў сэрцах б'е крыніцаю жывой?

Як навучыцца сярод мноства слоў
Знайсці найнеабходнейшае слова
І радавацца кожны дзень нанова
Світанню з мірным клёкатам буслоў?

## ВЕРАСНЁВАЯ НОЧ

Вераснёвая ноч, бель туману густога,
Зарападавы звон у трывожнай цішы,
Ўсё без лішніх прыўкрас, невыдумна і строга,
Як у добрай і шчырай чалавечай душы.

Ападаюць лісты, нешта шэпчуць трывожна —
Цяжка, знаю, рашыцца на гэты палёт.
Вецер спёр з неба хмары крылом асцярожна,
Як са спелае слівы бялявы налёт.

І здаецца бясконцым любое імгненне,
Нібы шлях той далёкі ад зоркі святла,
Што праз холад і змрок працягнула праменне,
Каб сагрэцца ля шчасця, ля зямнога цяпла.



Месяц плыве марудна,
Сыпле святло залатое.
Ціха ў парку, бязлюдна,
Толькі блукаюць двое.
Хай сабе кружаць сняжынкі,
Нібы маленькія зоры,
Хай зледзянелі сцяжынкі
І да вясны не скора...

## ЗОРНЫ КАМЕНЬ

Восень рыжымі вачамі
Паглядае з-за ракі.
Я шукаю зорны камень.
Адкажыце, ёсць такі?
Мо няма такога цуда,—
Выдумала ўсё сама?
Ды шукаць усё роўна буду,
Адгаворваць вам — дарма!

## ВОСЕНЬ

Зачаравала золатам дрэў,
Буйнай расой апаіла
І развітальны птушыны спеў
Мне на ўспамін падарыла.
Нечым падобная да мяне
Гэта свавольніца-восень:
То зарападам іскрыстым блісне,
То халадком прымарозіць.



Я сумую, о як я сумую!..
Нібы ў сетку злоўлены птах.
Павуціну ірву сівую
І блукаю па верасах.

Дзе ж ты, лета, мілае лета,
Па якіх ты сцежках пайшло?
Як апошняя песня прывету,
Льецца сонечнае святло.

Лісце кружыць, паціху кружыць,
Замятае лета сляды.
Праз туманаў малочны кужаль
Не знайсці мне дарогі туды.

Ну а восень, шчодрая восень,
Што між шэрані хмар зацвіла,
Каб самотнай я не была,
Дорыць мне блакітную просінь.

## РАСКАЖЫ МНЕ, БАБУЛЯ, КАЗКУ

Раскажы мне, бабуля, казку,
Што ў маленстве калісьці казала.
Раскажы пра дзяўчыну-краску,
Што хлапца-малайца пакахала.

Раскажы мне, бабуля, казку —
Хай там праўды доля малая,—
І кранi спагадай і ласкай,
Што ў жыцці часам так не хапае.

Добрай мудрасці першую звязку
Мне ў душу назаўжды палажы.
Раскажы мне, бабуля, казку,
Як калісьці малой,— раскажы.



Вось і усё,
і стрэч як не было,
І трывогі першага спаткання.
Наша шчасце месячным святлом
Патанула у блакітным ранні.

Мабыць, не з тваёй краіны мар
Я прыйшла ў сустрэчы і расстанні;
Можа, спадабаўся толькі твар —
Сэрцы нашы блізкімі не сталі.



Дарэмна прывідным цяплом
Я абагрэць сябе імкнуся,
Дарма — не кружыць белы бусел
Над ілюзорнасці жытлом.

Сабе адцэджваю спакой,
Але з халоднай раўнавагі
Не ўсходзіць рунь жыццёвай прагі...
І зноў вярнуся ў ветрабой.

Не ашчаджаючы душу,
У цемрадзі сатку світанкі
І для шчаслівае буслянкі
Зычлівасць колам палажу.

Няхай пасля не будзе сіл
Здабыткам шчодрым наталіцца,
Затое не у снах прысніцца
Крылаты, чысты небасхіл.



Як звон няўлоўны ў салаўіны вечар,
Крануўшы ў сэрцы кволую струну,
Прыходзяць нечаканыя сустрэчы,
Бы першацвет, вяртаючы вясну.

Іх не прыпомніш, калі радасць поўняй
Жыццё азорыць шчаснасці святлом,
Калі сябры гасцінны дом запоўняць —
Віно і хлеб пахваляць за сталом.

Яны тады паклічуць ціхім рэхам,
Калі не знойдзеш ты патрэбных слоў,
Не знойдзеш ні спагады, ані ўцехі
Ні ў аднадумцаў, ні ў былых сяброў.

Як звон няўлоўны ў салаўіны вечар,
Зноў адгукнецца ў стомленым жыцці,—
Прыходзяць нечаканыя сустрэчы
Надзеі зоркай дзіўнаю свяціць.

## ВУЛІЦЫ РОДНАГА ГОРАДА

Тапалёвая,
Садовая,
Падлесная —
Назвы вуліц — сонечнымі песнямі
Вы ў маё маленства увайшлі.
Радасці вучылі весняй квеценню,
Цеплыні вучылі мройным лецейкам,
Ўвосень — шчодрасці,
зімою — чысціні.
Віленская,
Доўгая,
Шасейная,
Вы ў душы маёй юначай сеялі
Прагу да пазнання і дарог.
І таемнасцю адкрыццяў вабілі,
Нібы карабель на стромкім стапелі,
Ў прадчуванні шчасця і трывог.
Дабрыяна,
Гнідаша,
Сінічкіна —
Вы вучылі, па святому звычаю,
Мужнасці, адданасці зямлі.
Каб сумленне шанавала чыстае,
Каб магла за праўду цвёрда выстаяць,
Памнажаць, што продкі здабылі.

## СЫНАМ АРМЕНІІ

Удзельнікі V Усесаюзнага фестывалю маладых паэтаў у Ерэване ля Вечнага агню, не дамаўляючыся, пачалі чытаць на родных мовах вершы аб Вялікай Айчыннай вайне, аддаючы гэтым даніну памяці загінуўшым сынам Арменіі.

Глыбей нябёсаў тая памяць,
Ашчадней самых мудрых слоў,
Пякельней болю, што параніць
І, як агнём, апаліць кроў.

То памяць цэлага народа,
Дзе рознасць звычаяў і моў
Братэрства славіць у паходах,
Яднае сілаю сыноў.

Яна ўзрастае, нібы колас,
У нашчадках спеліцца з вякоў.
Яна сумлення гнеўны голас
Ад прадзедаў — бальшавікоў.

Таму, зямля Ісаакяна,
Тут, каля Вечнага агню,
Мы гэтай памяццю з'яднаны,
Збудзілі сэрцам цішыню.

У вачах суровым бляскам — слёзы.
Сціскалі моцна кулакі,

І паплылі набатам грозным
Над Вечным полымем радкі.

Радкі самотнасці і гневу
Плылі ў рознагалоссі моў.
І не было незразумелых
І не прынятых сэрцам слоў.

Тых вершаў светлая даніна
Тваім, Арменія, сынам,—
Для іх была адна Радзіма,
Як і у нас яна адна.

## НАСТАЎНІКУ

На роспач не маеш права,
Хаваеш слабасць і стому.
Твая нялёгкая справа
Жыццё адкрываць другому.

Любові навучыць адданай
Да роднай пявучай мовы,
Што з песні жытоў саткана,
Са звону гусляў вясновых.

Любові да роднага краю,
Да песень і казак матулі,
Сівых курганоў ля гаю,
Дзе мудрыя продкі паснулі.

У працы не маеш права:
На роспач,
на слабасць,
на стому.
Твая пачэсная справа —
Жыццё адкрываць другому.

## ГОЛАС ЗЯМЛІ

Хлеба лустачка выпала з рук
на калені.
Маці згадала дзяцей —
ці паелі?
Ці хваробы каго за стол
не пусцілі?
Ці бяда, ці турботы ім
не па сіле?
Па прыкмеце —
тваё дзіця не паела —
Напамінам луста на дол
паляцела.
Гэта спадчына даўніны,
дня ліхога,
У сэрцы матак крадком жыве,
як трывога.
Вы павер'і краю майго,
як адвечнасць —
Мудрасць спеліла вас здавён,
чалавечнасць.
І планету сціскае боль мацярынскі:
Голад дыбіцца чорнай сцяной
ля калыскі.
Для мільёнаў дзіцячых воч,
як спакуса,
Як міраж галоднага сну,
хлеба луста.

Ды затое сыта бліпічаць
дзеля згубы
Ненажэрных вайны каршуноў —
бомбаў дзюбы.

Кожны дзень страляніна,
кроў і пажары...
Чатырнаццаць тысяч кастроў,
і ахвяры
Перакрылі даўно яны лічбу ўжо тую,
Што сягоння ў калысцы зямной
лёс гадуе.

Для жыцця ўзрасціла зямля
хлебны колас
І ўздымае на сотнях моў
гнеўны голас —
Хай накінецца боль мацярок,
нібы путы,
На крывавыя рукі вайны,
на пакуты.

## СЛОНІМУ

Маладосць гарадоў не складаюць гады,
Маладосць гарадоў вымяраюць стагоддзі.
Горад мой, Слонім мой, ты заўжды малады
У бясконцым вяспынным жыццёвым
паходзе.

Больш за тысячу год з нараджэння твайго
Адгрымелі былінную слаўную песняй,
Калі стаў ты магутным заслонам між гор
Навагрудскіх
і пушчаў дрымучых палескіх.

Будавалі цябе, рабавалі цябе
У каронах, пад гербамі і пад крыжамі.
І крывёю пісаў аб сваёй барацьбе
Просты люд на гісторыі вечных скрыжалях.
Старажытным, сівым уяўляю цябе
У мурах камяніцаў, у нефах касцёлаў,
У кужэльным рыззі на сялянскім гарбе,
У слязах жабракоў, што сцякаліся з сёлаў.
А юнацтва тваё у чырвоных сцягах
Прыляцела з грымотным салютам
«Аўроры»,—
Ланцугі кайданоў іх магутны узмах
Змёў з працоўных, няскораных рук тваіх,
горад.

І свабода, як кволы зялёны расток,
Прарастала праз цэглу сцяны-агароджы.
Сэрца з вершаў Таўлая апальваў радок,

Дзе замест рэмарак стаяла — «астрожны».
«Малайцы» дэфензіў эстафетай здалі
Краты турмаў
фашысцкім засценкам гестапа,
Але нельга зламаць і скарыць той зямлі,
Дзе за слова «свабода» ішлі па этапах.
Ты цяпер малады: хлеб пячэш і куеш,
Тчэш палотны, стаіш ля станкоў і варштатаў
І наперад да светлае мэты ідзеш,
Бо Кастрычнік тваёй маладосці пачатак.

# ПАЛАНЕЗ АГІНСКАГА

У маладзіковым чоўне вечар
Наплывае ціха на сады.
І здаецца, чутны ў шэпце вецця
Паланез Агінскага тады.

Можа, музыку падслухаў вецер,
Як Агінскі сам яе іграў,
І тады зрадніўся з ёю нечым —
Мабыць, што радзімы сам не знаў.

Падхапіў мелодыю на крылы
І цяпер яе для тых пяе,
Хто з радзімай расстаецца мілай,
Каб не змог забыць навек яе.

## МАРШ НЕСМЯРОТНЫХ

Зноў аркестры іграюць «Развітанне славянкі»,
Зноў гучыць над зямлёй урачыстая медзь,
Зноў сівая матуля застыла ля ганка —
Знаць, да скону ўжо сэрцу незагойна шчымець.

Зноў аркестры іграюць «Развітанне славянкі»,
І зліваюцца крокі ў гулкі поступ адзін.
І сцягі над байцамі, як крылы заранкі,
І ў радах тых матулі зноўку бачыцца сын.

Зноў аркестры іграюць «Развітанне славянкі»,
І ў вачах ветэранаў стынь суровая слёз.
Зноў яны — юнакі, і матулі світанкам
Блаславўляюць на бой іх, каля родных бяроз.

Зноў аркестры іграюць «Развітанне славянкі»,
І вяртае іх памяць у пекла атак,
Дзе шапталі «матуля» на апошнім прыстанку
Іх сябры ў набрынялых крывёю бінтах.

Не змаўкайце, аркестры,
хай яшчэ хоць хвіліну
Тыя гукі, як далеч былога, жывуць.
Маці памяццю вернутыя з успамінаў,
Зноў байцы ў несмяротнасць
на подзвіг ідуць.

## МАКСІМУ ТАНКУ

Хай святло навукі яснай
Заблішчыць, як сонца ўсход,
Няхай родным словам шчасна
Загаворыць наш народ.

Якуб Колас

Да рукі не датачы́цца,
Сінім пухіром далонь,
Слёзы выплылі жывіцай:
Боль — агонь,
і гнеў — агонь.
«Хто ты естэсь, хто ты естэсь? —
Слоў чужых спадае друз.—
Ўспомні —
верш вучылі летась...»
«Там хлусня — я беларус!»
Верш другі на мове роднай
Гоіць хлапчуковы боль,
Ззяе, кліча, як паходня,
У свет іскрысты за сабой.
І натхнёна, і выразна
Шэпча, гледзячы на ўсход:
«Хутка родным словам шчасна
Загаворыць наш народ».
Ў нарачанскіх соснах спеўна
Словы Коласа жылі...
Той хлапчук прайшоў праз вернасць
Роднай мове і зямлі.

# МАЛАДОСЦЬ

Маладосць — веснавая крылатасць,
Неспатольная прага адкрыццяў.
Маладосць — гэта толькі пачатак
Нашых лёсаў і нашых жыццяў.

Маладосць — адчайная смеласць
У задумах, марах, здзяйсненнях,
Калі сталасць, як колас, спеліць
Цвёрдасць думак на летуценнях.

Маладосць — пачуццё прастору
І бясконцасці лепшай дарогі:
Для слабейшых — удачам пакорнасць,
Для мацнейшых — узлёт перамогі.

Маладосць — іскрыстасць надзеі
І надзея трывожнага свету,
Што ў руках яе запалымнее
Міру сцяг над усёй планетай.

Маладосць — незгасальная памяць
Слынных подзвігаў і бяссмерця,
Што карэннем моцным трымаюць
Непахіснасць і вернасць мэце.

Маладосць — гэта прадаўжэнне,
Зерняў мудрасці дружныя ўсходы,
Апантанага сэрца служэнне
Справядлівай справе свабоды.



Неадольны назол далікатнасці,
Падбіраю пакутліва словы,
Са спасылкамі на неадкладнасці
І са скідкамі на умовы.
Не абразіць бы вартасць нечую,—
На рашучасць накладзена вета,—
І двудушнасці забяспечаны
Латы моцныя этыкету.
Атуліўшы сябе тактоўнасцю
Ад праўдзівага жорсткага слова,
Будзе спеліць двудушнік з гатоўнасцю
І абразы, і плёткі нанова.
Неадольны назол далікатнасці,
А як трэба часамі сіла
Там, дзе маска штучнае вартасці,
Так сказаць, каб язык прыкусіла.



Лістапад закружыў галаву,
Сыпле золата восень пад ногі.
Жураўы па аблоках плывуць,
Нібы мары мае і трывогі.

Па сумётах кляновых лістоў
Не магу я ніяк наблукацца.
Парк, як царства чаруючых сноў,
Як таемнасць старога палаца.

То прайду, то вярнуся ізноў,
А вакол цішыня такая,
Што здаецца, праз далеч гадоў
Нехта побач са мной блукае.

Я за мудрасць восень люблю,
Вецер роздуму гойдае вецце,
Пакідаю бяздумнасць сваю
У далёкім свавольным леце.



Сказалі вусны жорсткае «бывай»,
А сэрцу слоў і сілы не хапіла.
І чадам горкім апавіў адчай,
Рука бязвольна дзверы зачыніла.

Што ж,
воля вольнаму,
не утрымала
Прамень імклівы сонечнага ранку.
І што цяжэй...
Самотнасці навала
Ці пачуццё, нібыта ў падаянку.



Не магу ў сабе разабрацца,
Зразумець сваё ўласнае сэрца.
І, здаецца ж, не панна з палаца,
Што ад смутку не знае, дзе дзецца.

Так жыву ў нясцыннай трывозе
І натхнёна нешта шукаю,
Не стаміцца б на гэтай дарозе,
Што да светлых імчыцца маяў.

Не магу ў сабе разабрацца,
Як у звоне загадкавых гусляў.
І таму я не панна з палаца,
Што пражыць бясследна баюся.

## ВОСЕНЬСКАЕ

Засталіся туману шматкі
На быллі, на вецці ялінак.
Ткуць увосень туман павучкі
З тонкіх блытаных павуцінак.
Ніжуць бусіны серабра,
Ніжуць жэмчугі і крышталі,
Зарапада іскры гараць
У дзівосных гэтых каралях.
Звоніць вецер маністай асін,
Залатою, чаканнай, мядзянай.
І гусей развітальны клін
Растае, як пахмурны ранак.



Не забыцца рукам маім
Тваіх пальцаў пяшчотных дотыкаў,
Калі млела сэрца ўпотайкі
І дурманіў пачуццяў дым.
Нерэальны, узнёслы, прывідны,
Ён ахутваў, хмяліў, заваражваў,
І цнатлівая насцярожанасць
Раставала светла ў ім.
Паслухмяна лавіў пагляд
Ўсё, што толькі сэрцу жадалася,
А было яно ці чакалася —
Не да роздуму, не да парад.
Мо пазней, нібы неба высветліць,
Сэрца сполах цвярозы час;
Да рэальнасці верне нас,
Бы у восеньскі выстылы сад.
Адпакутуецца ў снах,
І растворыцца, і сатрэцца,
Не сагрэе ні думкі, ні сэрца,
Як касцёр, што цяпліў і ачах.
Толькі часам бязважкі той дотык
Зноў адчуецца памяццю рук,
І агністай вясёлкі паўкруг
Зноў засвеціцца у вачах.



Як мне з табою пагадзіцца,
Як мне з табою прымірыцца?
Самой сябе не перасіліць —
У супярэчнасці жыву...
І вочы просяць прыпыніцца,
І сэрца просіць прыпыніцца,
А розум толькі ў знак прывету
Крыху схіляе галаву.

4 Зак. 541



Вось ізноў зацвіла вясна,
Неба сінь у вачах іскрыцца.
Першародным святлом бліскавіцы —
Да мяне прыходзіш адна.

Урываешся у жыццё
І чаканай, і нечаканай,
Бы за пошукі наканаванай,
Як дзівоснае адкрыццё.

Утрымаць бы ў сэрцы цябе,
Не растраціўшы кроплі-жывіцы,
Каб душою ізноў адрадзіцца,
Калі схіляцца плечы ў журбе.



Не прыдумвай мяне,
не прыдумвай.
Мара-кветка без каранёў.
Гэта проста ў табе ад суму
Прага радасці,
як насланнё.
Не прыдумвай
і за мяне
Не кажы слоў узнёсла-пяшчотных,
Бойся болей, чым адзіноты,
Верыць гэтай салодкай мане.
Не прыдумвай —
усё прасцей
Ці хутчэй неспасціжна складаней —
Мара горыччу перацвіце,
Але явай усё ж не стане.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Так незвычайна падаў першы снег.
Няспешна апускаўся,
урачыста.
Блакітнаваты,
асляпляльна чысты
І незваротны,
як імгненняў бег.

Ён падаў у рухомай цішыні,
Гучаў узнёслай музыкай аргана —
Хвалююча,
трывожна,
раскавана
Сняжынкі лёгка гукамі плылі.

Бязважка ападала чысціня
На слоту
і асклізлую макрэчу,—
Ахвяравальна,
шчодра
і адвечна,
Як у імя адноўленага дня.

## ЖНІЎНАЕ

Разабралі ночку пеўні —
Летня ночка невялічка:
Так спявалі колісь жнеі,
Калі ніва іх пакліча.

Першы певень нечакана
У цішы гукнуў чуллівай —
Цемра спуджана апала
Пераспелай сіняй слівай.

А наступны зыкам звонкім
Злёгку хістануў нябёсы —
Зор рабінавыя гронкі
Пастрасаліся на плёсы.

Трэці певень галасісты
Абудзіў крыламі вецер,
Туманы сагнаў дачыста
Пад лазовыя павеці.

Разабралі ночку пеўні;
Дзе ж званіла жыта дбайна,
Паплыла світальным спевам
Песня мерная камбайнаў.

## БАБУЛІНА КАЛЫХАНКА

Вечар з ночкаю пад прыгоркам
Вербалоз у туман спелянапі,
І цячэ бабулі гаворка,
Нібы рэчкі павольнай хвалі.

Што надоечы выплыла жыта,
На пагоду — якраз удала.
Будзе колас добра наліты,
Бо расіца буйна апала.

Што не месціцца і у думках
Ёй, спрадвечнай жняі і маці,
Дзе было б шукаць паратунку,
Каб машын не было ў калгасе.

Што над хлебам менш стала му́кі,
Менш ашчаднасці стала — сорам.
Вось яе уласныя ўнукі
Ўвесь пірог скармілі Трызору.

І снуюцца павольней думкі,
Засынаю пад мерны голас,
І праз сон — залатыя карункі:
Жыта,
сцежка,
да коласа колас.

## ЖНІВЕНЬСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

Па-гаспадарску басавіта,
Нібы вясновыя хрушчы,
Гудуць машыны на шашы,
Вязуць духмяны водар жыта.

Льняное асушылі мора:
Дзе хвалі сінія плылі —
Барозны чорныя раллі
Ляглі за трактарам учора.

На клумбах спелае насенне
Заўзята дзеляць вераб'і,
І адлятаюць ціха дні
Салодкіх сноў на свежым сене.

## БАБІНА ЛЕТА

Згасла бабіна лета,
Як касцёр на узлеску,
Дагарэла асінка мядзяным агнём,
І, нібы на кірмаш,
Хмар вазы з-за паўсвету
Коцяць, пыляць імжою
Драбнасейным дажджом.

Кветка «бабіна лета»
Дацвітае ля весніц,
Ападае пялёсткаў халодная сінь.
І здаецца, сцякае
Паволі ў паветры
Не з пялёсткаў струмень,
А з няўцешных слязін.

Плача бабіна лета
Па балюча кароткіх,
Па адчайна усмешлівых
Сонечных днях,
Што, як позняе шчасце,
Надзеяй сагрэта,
Толькі сіл не стае
Утрымаць у руках.

## СТАРЫЯ ФОТАЗДЫМКІ

Фотаздымкі —
Нашы успаміны,
І калі мы іх пераглядаем,
У душы, нібы за небакраем,
Ажываюць даўнія часіны.
Вось мы —
Галапузыя, з усмешкай,
Беспрычыннай,
                светлай і бяззубай,—
Ў свеце, дзе ўсё дарага і люба,
Дзе выток жыцця нялёгкай сцежкі.
Вось трымаем
Лялькі і машынкі,
Вось партфелі школьныя валочым,
І рахункаў неакрэплы почырк
Пробліскі выводзіць і хмурынкі.
Бы ў зямлі
Карэньчыкаў спляценне,
Ў лёсе нашым ростані, сустрэчы.
Колькі іх,
            каштоўных, недарэчных,
Незваротных, нібы бег імгненняў?
Здымкі.
Тут застыла непарушна
Ўсё, што цешыла і што балела;
Адымі іх — і наш свет збяднелы,
Як згалелая увосень груша.

# КАСТРЫЧНІКУ

Сталее Кастрычнік, кладуцца гады,
Як колцы у дрэва, маленькай арбітай:
У іх перамог і змагання адбітак,
Свабодай пазначаных назаўжды.

І цяжка ўявіць яго кволым растком,
Што смела прабіўся праз цемру прыгнёту,
Узрошчаны светлаю марай народа,
Якую і зараз, як сцяг, мы нясём.

Цягнулася ворагаў жорсткіх гайня,
Пажарамі войнаў над ім лютавала,
Ды партыя Леніна сілу давала
І гарт незвычайны яго караням.

Кастрычнік, як дрэва, дужэе, расце
Надзеяй пазбаўленым шчасця народам,
Як светач, як сімвал жыцця і свабоды,
Надзейны заслон ад нязваных гасцей.

Яго ўжо віхурам ліхім не скрышыць,
І шчэрацца ворагі ў злосці бяссільнай.
Ён мкнецца да сонца, і з кожнаю хваляй
Мацней і мацней яго пошум гучыць.

## ПРЫЗНАЧЭННЕ

Павінна радасць спеліцца ў жыцці,
У працы і у клопатах будзённых,
Цячы імкліва, віраваць, ісці,
Трывожачы і вабячы да скону.

Павінен сэрцам падлічыцца дзень,
І кожны крок, і кожная хвіліна.
Ні ў чым не абясцэніцца нідзе
Ўсё тое, што пасля сябе пакінеш.

Павінен жыць крылаты свет надзей,
І шчасця будзе вокам не акінуць —
Трымае вера светлая людзей
У прызначэння зорную часіну.

## ШЧАСЛІВЫЯ СЦЕЖКІ

Хто з нас не азіраецца назад
У хвілі растрывожанай развагі,
Калі гадоў няспынны лістапад
Прымёў сцяжыны маладой адвагі.

Калі пачнеш адмерваць кожны крок,
Узважваць думкі і ацэньваць словы,
І хочацца жыцця свайго клубок
Хоць крышачку пераматаць нанова.

І найцяжэй усведамляць тады,
Што не было ў жыцці любімай справы,
Што стомлены, як ад пустой хады,
Пакосамі патраўленай атавы.

Затое як азорвае святло
Усёй душой абранае дарогі,
І каб вярнуць — вярнуў бы, што было:
І радасці, і золкія трывогі.

Як шчодра і як многа дорыць нам
Здабыткаў праца, выбраная сэрцам.
Ты — уладар, не парабак гадам;
Тканіна мары да здзяйснення тчэцца.

І светла азіраецца назад,
Калі развагі спыніць міг трывожны —
Пражытых дзён уладны лістапад
Шчаслівых сцежак замясці не можа.

Адкуль жа вы,
мае вытокі,
Мой род:
дзяды, бацькі?
Мой лёс імклівы
крок за крокам
Адмервалі вякі.
Мая душа,
твае спляценні
Не струшчыць ветрабой —
Тых,
што жылі,
першаімкненні
Складалі іх сабой.
Нянавісць,
радасць,
захапленне —
Адмераны спаўна.
Я у няспынным счэпе звенняў —
Часцінкаю звяна.
Я існую ў сваім адзінстве
Уцалку
ў тым звяне —
Раструшчыць нельга,
нельга знішчыць
І адлучыць мяне.

*

Тут начатак мой,
пупавіну
Закапала бабуля ў раллю
З заклінаннем:
не здрадзіць,
не кінуць,
Не забыцца на гэту зямлю.
І трымаюць моцна карэнні,
Струны памяці толькі кранеш —
Выплываюць светлыя цені
Тых,
што складваліся ў мяне.
Тых,
што мне пакінулі мары,
І бяду,
і надзею сваю,
І нянавісць чорным пажарам,
І любоў,
якою люблю.
Непрымірапасць да кайданаў,
Да уціску,
здзеку,
бяды,—
Ці не ты,
прабабка Мар'яна,
Мне пакінула?
Ці не ты?

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### З успамінаў прабабкі Мар'яны

#### I

Цвет цвіце —
ды з пустацветам,
Дождж ідзе —
не да пары.
Прыблукалі,
селі беды
На маім пустым двары.
Муж хварэў вясной і летам:
Не пасеяць,
не пажаць.
Лебяды гаркавым цветам
Пахне хлебная дзяжа.
У дачушкі тварык бледны,
Ручкі свецяцца наскрозь —
Не выходзіць з хаты беднасць —
Гаспадыня,
а не госць.
Дроў няма,
пад ранак іней
Асядае па кутах.
Гэтак марылі аб сыне —
Нарадзіўся і зачах.

Ахрысціць дык ледзь паспелі...
У мяне ад той бяды
Скроні зразу пасівелі,
Нібы іней сеў густы.
Шчэ суседкі спачуваннем
Памагчы ішлі бядзе...
Цівуна прыгнала ўранні:
— Хай карміцелькай ідзе.
Граф дасць хлеба,
дроў і сала,—
Не шкадуючы,
ўсяго,
Абы сына даглядала
Так,
як роднага свайго.
Крыўда,
нібы соль на рану,
Так шкада малой дачкі...
Ведала:
адмовіш пану —
Пусціць хутка ў жабракі.

II

Прывыкалася цяжка Мар'яне
У маўклівых пакоях белых.
Па дачушцы начамі і днямі
Безупынку сэрца балела.
Успаміпала сыночка ўпотай,
Сына графскага гадавала,

І забыўшыся,
адзінотай,
Як свайму,
калыханку спявала.

Люлі, люлі, люлі.
Ластаўкі паснулі,
А разбойнік верабей
Спаць паклаў сваіх дзяцей,
Сам дзюбкай пазяхнуў
І на голейку заснуў.
Люлі, люлі, люлі,
Усе даўно паснулі.
Сніцца ластаўкам жучок,
Верабейку — чарвячок.
Заплюшч, сынку, вочы,
Сасніш, што захочаш.
І за гэта не раз ад пані
Атрымала злую вымову:
— Лепш маўчы, каб не пераймала
Мне дзіця халопскую мову.

III

Часта есць графіню злосць
Ад гультайства — ўсёй прычыны.
Конь спалохаўся,
панёс,
Твар падрапала галінай.
Б'е гнядога па баках

Пужка вітая, тугая.
І нямее больш рука,
Злосць па кроплі прыбаўляе.
З голля выблісну̌ў палац
Чарадой блакітных вокнаў;
Чуе пані сына плач
У пакоях, недалёка.
Нянька ўсё тлумачыць ёй,
Хіліць галаву пакорна,
Што Мар'яна дзесь з дачкой —
Хутка прыйдзе і пакорміць,
Што вяскоўцы прывязлі
Дзеўчанё на паўгадзінкі...
Погляд пані адлілі
Злосці колкія ільдзінкі.
Гаспадыні чуе злосць,
Конь ляціць пустой алеяй.
Заступіцца і спыніць
Хто захоча,
хто пасмее?
Пад раз'юшанай рукой
Конь уздыбіўся ўсім целам.
Засланіць дачку сабой
Тут Мар'яна ледзь паспела.
Злосны крык,
кароткі ўзмах —
Ні ўзмаліцца,
ні заплакаць.
Сцебанула па вачах
Пужка сіняю вужакай.

5*

## IV

Ціха ў парку,
крадуцца цені
За панурым
вазком сялянскім.
У мяне не рэчы —
адценні
У вачах па міласці панскай.
Як праз шкло,
Што дажджом заліта,
Бачу твары:
дачкі,
Міхала.
Пані грошы дала
і квіта,
І каб праўды нідзе не шукала.
Ды і дзе тую праўду знойдзеш?
Панства польскае,
дзе ні ткніся.
Кажуць светла там —
на Усходзе —
Паспрабуй туды азірніся.
Лёс жанчыне прызначыў такое:
Усе правы
каля курнай печы.
Сіратою жыла,
не дачкою
У радзімы сваёй спрадвечнай.
Хай праклята будзе няволя

На зямлі ад веку
                    да веку,
Хай узыдзе калоссямі доля
На завораных гонях здзеку.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Амаль ля кожнай вёскі абеліскі,
У кожнай хаце нехта не прыжданы:
Малы, стары,
                далёкі або блізкі —
Вайне ахвяраваны.
Вясновы лівень не салье зямліцу,
Як кроў і слёзы ўсю яе злівалі,
Касцёр зары не зможа так разліцца,
Як вогнішчы,
                дзе людзі дагаралі.
І не забыць:
                хто бачыў,
                        хто не бачыў,
Хто паўжывы вылазіў з папялішчаў.
Чацвёрты кожны —
                        гэта наша памяць,
Што часу ўсемагутнаму не знішчыць.
Мне несці ў сэрцы вечна памяць тую,
З нянавісцю бязмернаю да войнаў,
Што над людзьмі яшчэ цяпер лютуюць,
Да тых,
            хто зноў зямлю крывёю поіць.

## З успамінаў бабулі Аліны

Зязюлька, зязюлька, у зялёным бары,
Чаму кукавала ў той год без пары?
Не з правага боку,
каб шчасце прыйшло,
Не з левага боку,
каб хлебна было,
А ў сінія вочы, каб слёзы лілі,
У спіны, каб жальбу глухую няслі.

I

Вёска змоўкла, нібы ўвосень
Апусцелая ралля.
Песні зжаты, як калоссі,
Студзіць сэрца цішыня.
Гук мацнейшы, быццам злодзей
Стукне цэпам ля гумна.
З думак, з сэрцаў не выходзіць,
Як пароль бяды —
вайна.
Абгарэлыя ігрушы,
Заламаўшы рук галлё,
Шчэ стаяць, бо, пэўна, душы
Не спаліла ім агнём.
І Аліна, як ігруша,
З набалелаю душой
Над маленькаю дачушкай
І над маткаю сляпой.

Не ўявіць на чорным голлі
Белай квецені вясны.
Вусны сцяты, як ніколі
Не ўсміхаліся яны.

II

Ільвы ашчэрыліся люта,
Глядзіць іх зрэнкамі палац,
Тут маці некалі ў пакутах
Слязу слязою паліла.
Стаіць фашыст ў крыжах-папругах
З ільвамі ўпоруч:
звер і звер,
І над Алінай позірк пугай,
Як дваццаць год назад — цяпер.
І не схаваць дачку, як маці
Яе калісьці за спіну:
Халодным дулам аўтаматчык
Балюча ў плечы таўхануў.
Вось пядзі,
вёрсты,
кіламетры;
Імгненні, месяцы, вякі —
На рэчы ўсе на свеце меркі
З прадбачлівай людской рукі.
Чаму ж ад самых дзён стварэння
У мудрай скарбніцы навук
Няма ў адзінках вымярэння
Памераў радасці і мук?..

Сваім дзіцём ахвяравала,
Каб для жыцця жыты цвілі.
Памерай —
                    свету будзе мала
Яе пакутам і любві.
Лютуе вецер апантана,
«Кажы!» — цярэбіць за руку.
А што казаць? Што партызанам
Лякарства везла у вазку?
Казала,— хворая малая...
Перапаролі ўвесь вазок.
Дачцэ лякарства? Тут хапае
Амаль на цэлы гарнізон.
Калючай дзідай кроў у скронях:
Загінем, Вольгачка мая.
Дачкі халодныя далонькі
Спіраюць слёзы з вачанят.
Тут стараста,
                    як здань са змроку,
Шмыгнуў таропка між пастоў,
Зняў шапку і пачцівым крокам
Да немца ціха падышоў.
Аліна ўся нібы знямела,—
Ці стане сіл дачку ўтрымаць?
«Кароста» — слова даляцела,
І што «для цэлаї вёскі мазь».
А немец доўга на паперу
Глядзеў, нібы з вачніц пустых,
Махнуў рукой, жыццё адмераў,
Цікавасць страціўшы да іх.

Ішла кудзельнымі нагамі,
Дачкі не чула на руках.
І плаваў краявід кругамі,
І раставаў пакутны страх.
Яшчэ сычэла ззаду зграя,
Нібы адходзячы ў нябыт.
Ішла атрада сувязная,
Ішла да новай барацьбы.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

### I

У нас заўжды па працы шанаванне,
На покуці жытнёвы каласок.
Знайдзі з усіх
адно сваё прызванне,
Знайдзі сваю сярод другіх дарог.
І шчасце будзе,
нібы хлеб надзённы,
Заўсёдным госцем за тваім сталом;
Павагай да людзей
і ў дзень будзённы,
І ў святы хай напоўніцца твой дом.
Тады парог не пераступяць беды,
Сяброўскіх рук адчуеш ты цяпло;
Жыві,
твары і мудрасць продкаў ведай:
Пасей дабро — тады пажнеш дабро.

## З расказаў маці

Белапенная лілея,
Блік нябёсаў — васілёк:
Колькі казак сэрца грэе
З дзён дзяцінства, аддалёк.
Іх агеньчык жыватворны
Прыбаўляў пазбытых сіл:
Ён сляпой Мар'яне ў чорных,
Невідушчых днях свяціў.
Кветкі, зёлкі —
ўсё, што знала
Ад хваробаў і ад ран,
Для Аліны прыпасала,
Каб лячыла партызан.
Вольгу змалку прывучыла
Дыхаць мараю адной:
Ведаць кветкі —
ведаць сілу
Светлай радасці людской.
Прыляталі,
адляталі
Птахі, школьныя званкі.
Вось апошні па-над даллю
Звонам абудзіў блакіт.
Сто дарог ад школьнай брамы
Ірванулася ў прастор —
Выбірай сабе напрамак
Хоць да самых дальніх зор.
Мо былі ў каго сумненні;

Вольга ж выбрала даўно —
Кветкавод —
яе імкненне
Змалку выспела адно.

## II

Першапачатак,
прадаўжэнне
Ў цянётах згублены вякоў.
Вытокі Вользіных імкненняў
Працяг нязбытных даўніх сноў.
Вачамі зор з зімовай сіні
Ў цяпліц духмянае жытло
Глядзяцца думкі, успаміны
З таго жыцця, што адышло.
І расцякаюцца сумненні,
І больш упэўнена рука
Шукае новыя праменні
Для кветак дзіўнага вянка.
Палёў духмяных гаспадыня,—
Да Вольгі адусюль давер,
Бо на вяселлях і радзінах
У кветках госцяю цяпер.
Няма натхнення ў непадзельным:
Бляск запаветных таямніц —
Пазнання бляклае адценне,
Што іх раскрые да драбніц.
І не бяднееш, багацееш
І сілы чэрпаеш свае

У тым, што між людзей падзеліш,
Што, ўзгадаваўшы,
адддаеш.
Няспынная цікавасць працы,
Нястрыманы палёт надзей;
Значком адзначан дэпутацкім
Адвечна клопат за людзей.
Такі нябачны ключ прызнання,
Бы ў невычэрпную казну,
Ў давер людскі і шанаванне
Для Вольгі дзверы адамкнуў.

*

Лёсы,
лёсы — сінія плёсы,
Вас гайдаюць, як зоркі, гады.
Так і я
жыццёвыя вёслы
Тут пакіну для маладых.
І таму вывяраю сёння:
Кожны крок і кожны уздых,
Каб у будучых дзён прадонні
Не адкінулі грэбліва іх.
Лёсы,
лёсы — вы нас вымярэнне,
Шлях, якім ісці і сталець,
Станавіцца вытокам,
карэннем,
Што дадуць другім узмужнець.

## ПАРАДЫ

Ку́ма павучаў Гаўрыла:
— Ў шлюбе не цягні гужы,
Не выказвай многа сілы,
Бо заездзіць, дружа мілы,—
Толькі моду пакажы.

Не ваджу я ў садзік сына:
Не ўкладаюся ў рэжым.
І заўжды знайду прычыны:
Нянькацца — не для мужчыны —
Жонцы ж моду пакажы.

Хоць ссінеў, як пуп курыны,
І пад носам ледзяшы,
Не прыношу ні дравіны:
Печ паліць не для мужчыны —
Жонцы ж моду пакажы.

Шмат парад даваў Гаўрыла,
Ды паслухаем, чаму
І Гаўрыліха вучыла
Зухаватую куму.

Я гатую без прыкрасаў —
Без прысмакаў будзе жыў,—
Прывучай к таму адразу,
Бо дыхнуць не будзе часу —
Толькі моду пакажы.

Не вяжу ніколі — трасцу,
Шыць, кажу, не па душы,
Бо ад спраў не знойдзеш спасу
І прысесць не будзе часу —
Толькі моду пакажы.

Узялі кумы параду,
І ў сям'і не стала ладу.

## ЗГОДНА ВЫГОДНАМУ

Прыгібкіна абралі у журы,
І на сябе не стаў ён класці меры.
Вялікі гонар, што ні гавары,
Калі такім адзначаны даверам.
Ды жонка тут прыліпла як смала,
Сказала:
— Калі хочаш жыць у згодзе,
Зрабі, каб прэмія найперш была
Пляменніцы маёй сяброўкі Лёдзі.
Зазнач сабе, бо так вядзецца скрозь,
Калі жадаеш ты дабра у хату:
Другое месца — калі талент ёсць,
А першае заўжды даюць па блату.
Твайго начальства ёсць там сваячок —
Яго адзначыць трэба месцам трэцім,
Каб падхалімам хтосьці не нарок,
І крыўды не было, што не прыкмеціў.
Павінен ты маліцца на мяне —
Я правяла бліскучую разведку:
Каму даваць прызы, каму і не,
Найпадрабязнейшую даць магу даведку.
Прыгібкін гыркнуў:
— Кінь, бо зазлую!
Я месцы без цябе даўно прыкінуў:
На Лёдзю з абутковага тваю
Ў мяне ёсць Федзя з аўтамагазіна.

## ДЗЕЦІ І ГОСЦІ

Каб наладзіць мікраклімат,
Прадпрыемлівы Марцін
Да сябе на імяніны
Усё начальства запрасіў.

Гаварыў ён тост прачулы,
Частаваў усім на здзіў.
І такім падаўся чулым,
Хоць на раны прыкладзі.

Ўсё ішло так гладка, міла,
Ды бяда не абышла —
Сын маленькі нейкай сілай
Ўсё ж прабіўся да стала.

Пахваліў начальнік сына,
Чым Марціну дагадзіў,
Для прыліку ён хлапчыну
На калені пасадзіў.

Той глядзеў на дзядзьку ўважна,
А пасля гукнуў пры ўсіх:
— Ты не страшны, тата ж кажа,
Ўсіх ты поедам ясі.

Госці ойкнулі, замерлі,
А хлапчына не драмаў,—

Ён начальніку з даверам
Апісанне ўсім даваў.

— Дзядзька той,
бухгалтар татаў,
Страшны скнара,
Блюдаліз.
За капейку ў сваю хату
Ён блыху пагнаў бы ў Мінск.

Цётка тая,
яго жонка,
Пра яе казаць мне страх,
Звар'яцела на пярсцёнках,
Дыванах і крышталях.

Ў майстра клёпак не хапае —
Кнігалюб-камедыянт,
Кніг са школы не чытае —
Падбірае пад сервант.

Жонка у яго да па́ры —
Толькі ведае стагнаць,—
А запрог бы, тры гектары
З ходу можна узараць.

Маці заграбла малога:
— Ах, дурненькі ён зусім.
— З вуліцы нанёс благога,—
Ледзьве выдыхнуў Марцін.

Разышліся ўсе за хвілю.
Майстар жонцы ля дзвярэй
Кажа:
— Мы ж іх запрасілі.
Эх, куды ж падзець дзяцей.

## АХВЯРЫ МОДЫ

Мала клопату ў людзей,
Дык яшчэ нагода:
Не дае нам пасядзець
У спакоі мода.

Каб свая, што ні кажы,
Тут бяда малая,
Дык яшчэ і з-за мяжы
Проста заядае.

І засела ўжо ў крыві
Ад гадоў даўнейшых,
Што у імпартным дурны —
Трохі разумнейшы.

Хлопец штруксы мець жадаў,
Маці сыну сшыла.
Тыдзень слепла: загадаў —
З імпартным ухілам.

І кішэні, і шытво:
Не штаны, а кветка,
Ды бракуе аднаго —
Гучнай этыкеткі.

Хлопец часу не губляў,
Для сваёй абновы

За пяцёрку дзесь дастаў
Цэтлічак фірмовы.

Што там піша — мала спраў,
Прачытаў прыблізна
І да заду прысцябаў:
«Дамская бялізна».

У дзяўчат свая бяда,
І згрызот, і тлуму;
Раскапала дзесь дачка
Імпартнай парфумы.

Бацьку сцяў пры стрэчы жах —
Так памерці можна,—
Ззяе твар дачкі ўпацьмах,
Нібы знак дарожны.

Крэм ён з шафы ухапіў,
Ў слоўнік глянуў словы:
«Для нябожчыкаў» — на ім
Надпіс каляровы.

Запіс меламан зрабіў
Неяк за трыццатку
І рок-операй «здзівіў»
Сябра пры выпадку.

Той са смеху аж дайшоў:
— Ну і накалолі!

То ж рэклама пірагоў
На французскай мове.

Мода, мода — віражы,
Змены без памеру,
Але любіць, ты скажы,
Тых, хто любіць меру.

## У ЧУЖЫМ ВОКУ
## ПАРУШЫНКА

Раз суседкі дзве былыя
Стрэліся праз колькі год:
— Як здароўе?
— Як жывыя?
Слоў завіўся карагод.
Пра сяброў і пра знаёмых —
Шмат набралася падзей,—
А як маткі, то вядома,
Першым чынам пра дзяцей.
— Як жывуць?
— Дачка цудоўна!
Зяць аж млее за дачкой.
Ў доме робяць ўсё пароўну:
І парадак, і спакой.
Ён ісці на службу мусіць
Раніцой,
дык устае,
Сам ціхенька перакусіць,
Каб і не будзіць яе.
Сам прыбраць паможа ў хаце,
Мыць бялізну,
прасаваць,
Ў магазін замчыць, як кацер,
І не трэба падганяць.
Ў вольны час глядзець з канапы
Тэлевізар — яе страсць.

Ён ёй ножкі ўкрые капай,
Кавы з булачкай падасць.
На здароўе не багата,
Змалку мы над ёй дрыжым,
А што стала круглавата,
Дык то ж лекі і рэжым.
— А сынок?
— Той уваліўся,
Як у нерат галавой.
І казала ж,
не жаніся,
Не паслухаў —
розум свой.
Раніцой храпе лянота,
Кіем з ложка не падняць.
Не, каб мужу да работы
Ўстаць,
сняданак згатаваць.
То прыбраць кватэру трэба,
То бялізну паласкаць,
То няма у хаце хлеба —
Толькі ведае ганяць.
А яшчэ прымела моду,
Бо гультай!
А што ж яшчэ?
Ляжа ў ложак,
як калода,
Ап ёй каву валачэ.
То дзіця цяпер чакае,
Бач, спатрэбіўся рэжым;

Дурань мой ёй патурае,
Сам заездзіўся зусім.

Што казаць?
У сваім воку
Не заўважыш бервяна.
У чужым, дык і здалёку,
Парушынка, а відна.

## ПЕРАБЛЫТАЎ

Пасля суда расплакаўся Цімох:
— Ці справядлівасць ёсць
на белым свеце?
Мяне матуля навучыла дзіцем,
Яе не слухаць я ніяк не мог.

«Не пакладай, казала, сынку, рук,
І будзеш мець пашану і дастатак».
А тут вунь скрозь зрабілі вінаватым,
Хоць ты вішчы, бы ў плоце той япрук.

Я стрыжанем жыццёвае маралі
Паставіў словы матчынай навукі —
Ну ні да чога не прыкладваў рукі —
За што мяне, скажыце, пакаралі?

## МУКІ ТВОРЧАСЦІ

Ашчаперыўшы галаву,
Уздыхаючы ў задуменні,
Як гаючую тую траву,
Ён шукае сцябліну натхнення.
То у вокны кіне пагляд,
То у столь пазірае натужна:
На паперы радкоў няшмат,
Хоць працуе думка напружана.
Што шукае?
Ў паэму радкоў?
Ці карпее над белетрыстыкай?
Не.
Настаўнік на лайдакоў
Піша станоўчую характарыстыку.

## ЗМЕСТ

### СПАСЦІЖЭННЕ

#### Лірыка

## ВЫТОКІ



## ЗГОДНА ВЫГОДНАМУ

**Вершаваныя гумарэскі, сатырычныя вершы**

**Руцкая А.**

Р 91 Роздум: Вершы, паэма.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 94 с.

ISBN 5-340-00060-5

**Лірычныя вершы зборніка вызначаюцца непасрэднасцю, жыццёвай праўдзівасцю. Высокімі меркамі чалавечнасці імкнецца маладая паэтэса вымяраць і пачуццё кахання.**

**Апошні раздзел кнігі — вершаваныя гумарэскі, сатырычныя вершы.**

Р $\frac{4702120200-010}{М302(03)-88}$ 60—88 ББК84Бел7

Литературно-художественное
издание

*Руцкая Елена Витальевна*

**РАЗДУМЬЕ**

Стихи, поэма

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

---

Літаратурна-мастацкае
выданне

*Руцкая Алена Вітальеўна*

**РОЗДУМ**

Вершы, паэма

Рэдактар Х. Д. Жычка
Мастак С. М. Пчалінцаў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар А. Т. Глушчанка

ІБ № 2426

Здадзена ў набор 25.06.87. Падп. да друку 13.11.87. АТ 07735. Фармат 60×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,00. Ум. фарб.-адб. 3,19. Ул.-выд. арк. 2,66. Тыраж 3600 экз. Зак. 541.
Цана 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

